# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 34 (1173) ГОД XXIII БЕЛАСТОК, 20 ЖНІЎНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




*СКР у Орлі мае 8 „Бізонаў“ і 3 „Вістулі“.*

З рэпарцёрскіх запісак

## У жніво

Жніво. Рапс даўно ўжо скошаны і абмалочаны. Пад касу пайшло жыта і ячмень, трэба брацца за пшаніцу і авёс, трэба араць і сеяць паплёны, рассяваць вапну, падрасла ўжо і трава для другога пакосу, у агародах галінкі гнуцца ад цяжару яблык.

І ўсё гэта амаль адначасова.

— Нават няма калі поту абцерці, — кажа мне знаёмы селянін, да якога падсеўся я на кароткі перакур. Ды, магчыма, не было б і гэтага перакуру, але вада ў трактаравым халадзільніку нагрэлася і неабходна было даць некалькі хвілін адпачынку гэтаму стальному каню.

— Бачыце, як яно ёсць, — кажа селянін. — Спярша дождж і холад, а цяпер вось якая спёка, звыш 30 градусаў! А працаваць трэба. У гаспадарцы хто назаўтра адкладае, той нічога і не мае.

*

Тэарэтычна кожны селянін у час неадкладных палявых работ мае прынамсі дзесяць памочнікаў, сярод якіх самым важным з'яўляецца спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў, бо ў яе руках сельскагаспадарчая тэхніка, без якой немагчыма цяпер уявіць сабе працу ў полі.

У гэты гарачы жніўны перыяд наведаў я СКР у Орлі. Прыняў мяне намеснік дырэктара па тэхнічных справах магістр інжынер Сяргей Нічыпарук. Не паспеў ён і прывітацца, як адазваўся тэлефон. Нейкі трактарыст дапытваўся, што яму рабіць з прабітай гумай (дэнткай, камерай) ад трактарнага каляса. Дырэктар закрычаў у трубку:

— Латаць трэба, латаць, бо новых няма! Вязі ў вулканізацыю хутчэй! Не хапае нам, на жаль, запасных частак і трактарыстаў, — паясніў, звяртаючыся да мяне. — З-за недахопу людзей і гэтых запасных частак не працуе ў нас 16 трактараў.

— Запасныя часткі, — гавару, — гэта справа агульнадзяржаўная, але людзі, трактарысты...

— Цяпер працуе ў нас, — інфармуе дырэктар, — 58 трактарыстаў, сярод якіх 27 маюць за сабой курс камбайнёраў.

— Аднак трактараў у вас аж 72.

— На перыяд жніва мы запрасілі да сябе на працу членаў добраахвотных гуфцаў з сельскагаспадарчых школ. Яны нам дапамагаюць поўнасцю выкарыстаць сельскагаспадарчую тэхніку.

— Чаму аднак няма ў вас сваіх трактарыстаў? Чаму людзі не хочуць працаваць у Орлі?

Дырэктар хвіліну маўчыць, а затым гаворыць:

— Цяжка мне адказаць на гэтае пытанне, бо я не займаюся персанальнымі справамі. Мая галіна — гэта тэхніка. Магу вам толькі сказаць, што я асабіста на працягу двух апошніх гадоў вывучыў тут на курсах звыш сотні трактарыстаў.

— І што, яны паўцякалі ад вас? Чаму?

— Не ведаю, — прызнаецца дырэктар. — Здаецца, не павінна быць ім у нас горш, як на іншых прадпрыемствах. То ж зарплата ва ўсіх СКРах аднолькавая, акордная, а мы тут маем даволі разбудаваную ўласную базу. Камбайнёрам у жніво давозім на поле суп і мясныя кансервы, даем мінеральную ваду. Усё гэта бясплатна.

Не толькі недахоп трактарыстаў дакучае кіраўніцтву арлянскай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. Тэхніч-

Працяг на стар. 4



*Начальнік гміны Мікалай Зіневіч (злева) і сакратар гміннага камітэта партыі Яўгеній Леўчук правяраюць гатоўнасць да працы сельскагаспадарчай тэхнікі.*

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

— Па лесе я магу блукаць цэлымі днямі, у ім не адчуваю ні стомы, ні голаду. Там жа такая безліч форм і кампазіцый, столькі незвычайных постацей, замкнутых у пакручастыя галіны, каржакаватыя карэнні, пукатыя пні! Як толькі дам рады вылучыць нейкую вальнейшую хвіліну, адразу бягу ў лес. Вяртаюся ж з яго, абвешаны рознымі пянькамі, сукамі. Стрэчныя людзі смяюцца: „Што вы, суседзе, паліва на зіму нарыхтоўваеце?..“ А я ім: „Буду мець на чым ваду на гарбату ўскіпяціць...“ Прыходжу я дахаты, раскладваю свае знаходкі, і маё сэрца аж расце ад гэтага багацця. Здаецца мне нават, што з кожнага кавалачка просіцца то нейкі лясны створ, то страшны дух, то імклівая казуля, то грозны вой, то спакуслівы д'ябал, а то і святы... Ну і я бяруся за пілу, долата, разцы розныя і здабываю іх з дрэва, вызваляю проста на свет...

## Вызваленне

І дзіўна: сёння ўжо пяцідзесяцігадовы Януш Дарашкевіч — гэта патомны супрасльскі ткач. Ні ў яго дзяцінстве, ні ў юнацтве не было, здаецца, нічога такога, што магло б яго прыхіліць да вычароўвання з дрэва розных цудоўнасцей, ды захапіць харастом гэтай лясной мясціны. Яго бацька працаваў на фабрыцы Цытрона, у змрочнай ад пылу ткальні, а матка — у затхлай ад выпарэнняў выканчальні. Працавалі без прасветнай хвіліны і без надзеі на лепшае. Дома іх чакала пяцёра дзяцей. У часе акупацыі гітлераўцы расстралялі бацьку, а яго, 15-гадовага хлапчука, прымусілі стаць за варштат, пры якім працаваў бацька. І давялося яму штодня па 12 гадзін мучыцца, каб у канцы месяца атрымаць 30 марак, за якія можна



было купіць пуд жыта або кілаграм саланіны. А тут яшчэ няспынны страх за сваё жыццё і за жыццё ўсяе радні — старэйшы брат уцёк з прымусовых работ у Германіі і хаваўся на падстрэшшы хаты. Калі прыйшло вызваленне і ўжо можна было пачаць новае жыццё, у дарожным выпадку загінула маці. І яны ўсе пяцёра рассыпаліся па ўсёй Польшчы, выехалі ў Лягніцу, Новы Сонч і інш. Януш здабыў прафесію электрыка, у войску закончыў школу сувязі і прайшоў спецыяльныя палітычныя курсы, ажаніўся, былі ўжо дзеці, нядрэнная праца і зусім добрая кватэра ў Эльблонгу. І ўсё ж, амаль праз 15 год, ён вярнуўся з усёй сям'ёй у родную Супрасль. Тры гады ездзіў на работу ў беластоцкія „Ухвыты“, а з 1962 года стаў працаваць у той жа прафесіі электрыка ў Супрасльскім мэблевым кааператыве.

— Спрабаваў я калупаць нешта ў дрэве яшчэ перад войскам, потым захапіўся маляваннем фарбамі розных краявідаў. Але гэта прамінула, і толькі гадоў таму 12 заняўся я разьбой. Спачатку рабіў фігуркі розных звяроў, але хутка пераканаўся, што можна выразаць адну-дзве арыгінальныя постаці

Працяг на стар. 4

 

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

### ВЫЖЭЙ ДУБОВЫХ ВЭРШЫН *)

Твор Івана Кірызюка напісаны белым вершам. Пазбаўлены рыфмы. Не пазбаўлены аднак высокачулай паэзіі.

Цытую:

*„Дзісяй одчынів я*
*Біловежську пушчу,*
*Як дрэвы в руоднуй хаты,*
*Запахло жывіцёю.*
*Як жэ думна кажда тут травінка,*
*Чую ейі вуольну мову,*
*чую веі віетры*
*колі колышут росу.*
*Як нэбо голубое в руці*
*Так над раном*
*продіраестся далека усмішка*
*пушчаньского краёбразу,*
*Такая блізька,*
*Такая спукойна,*
*як з іконы.*
*Всё тут руоднэ до слюз*
*і як воны чыстэ*
*а сэрце радуецця*
*крэпчіх*
*дубовых*
*корынь“.*

Мяркую:

Верш зроблены дасканала. Аўтар адораны глыбокім пачуццём назірання роднай прыроды. Створаныя ім вобразы самі сабой апраўдваюць мастацкасць верша. У яго далікатны падыход да мовы, адоранасць тонкага чуцця, духовая шчырасць. Дзякуючы такім фактарам, верш лёгка ўспрымаецца чытачом. А гэта вялікі плюс у маладога паэта, якім з'яўляецца Іван Кірызюк — Тарас Шаўчэнка Бельшчыны.

Буогмэ праўда. Жадаю поспехаў!

**Дзядзька Квас**

*) „Беларускі каляндар - 78“.

**Нашыя самадзейнікі**

# БЕЛАСТОЦКІ ДРАМГУРТОК

Першыя парасткі стварэння драмгуртка Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Беластоку пачалі ўзыходзіць яшчэ ў 1956 годзе. Былі гэта аднак толькі парасткі, якія доўга-доўга не выпускалі лісткоў і не красаваліся пладамі. На першым плане стаяла песня і песня найбольш запамяталася людзям. Але нешта бурліла, узрастала, занікала і зноў узрастала. Падсычваныя намаганнямі і заахвочваннямі Янкі Крупы, адказнага за самадзейныя калектывы, знайшліся першыя ахвотныя акцёры. Было гэта дакладна тры гады таму назад. Спрыялі гэтаму і арганізаваныя агляды драмгурткоў, у якіх прымалі ўдзел шматлікія калектывы. І так, пачынаючы з 1975 года можна ўжо гаварыць пра беларускую беластоцкую тэатральную групу. Рэпертуар бралі сучасны. Часта трэба было дапасоўваць, перарабляць, адным словам, ствараць сваю ўласную рэжысуру. Ставілі пераважна кароткія сцэнкі. Гэта найбольш прыкоўвае ўвагу мясцовага гледача.




Распачалі сваю тэатральную дзейнасць ад „Агледзін“ Бондарава. Доўга мусіў Я. Крупа, апякун гэтага драмгуртка, задумоўвацца над дапасаваннем яе да сваіх акцёраў. Перапрацавалі. Але пастаноўка ўдалася. Потым, у мінулым годзе, на ўрачыстым пленуме ГП БГКТ, паставілі „Курган“ Я. Купалы. Як вынікае з гэтага, паэма мусіла быць поўнасцю перапрацавана, заменена ў тэатральны твор. Затым ставілі „Мараль Наталлі Зотавай“, „Прымакі“, „Бацькоўскае благаслаўленне“, якім на сёлетнім тэатральным аглядзе здабылі высокую ацэнку сваёй мастацкай ігры.

Дабіўшыся прызнання і здабыўшы вялікі вопыт, беластоцкі драмгурток жыве поўным жыццём. Не ёсць гэта група з цвёрда акрэсленай колькасцю людзей. Кожны можа прыходзіць, прымаць удзел.

Многія ведаюць нашых беластоцкіх акцёраў. Хопіць паглядзець раз і надоўга застаецца ў сэрцы іх ігра, так як надоўга ўпісаліся ў памяць такія людзі, як Валя Шуста, Янка Пірута, Ірэна Рыбалт, Сцяпан Аўсенюк, Вальдэк Пісанка.

Ад 1 верасня пачынаецца новы культурна-асветны год. Распачне сваю дзейнасць пасля летняга перапынку і драмгурток. І калі хто хоча ўключыцца ў яго дзейнасць, дык калі ласка. З ахвотай упусцяць у свае парогі.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара

М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**валюх** — ужываецца як рыса характару чалавека. Паказвае на павольнасць, непаваротлівасць, Найчасцей гэта чалавек з адценнем неахайнасці і ляніўства. Ты нават і не думай пра яе, то ж валюх. Як табе ні ўстыд такім валюхом быць.

**дваранінэць** — валошка. Прынэсь, Ваня, дваранінэць, там на мяжы ляжыць. Нарві сабе дваранінцю, толькі жыта ні памні.

**жэшкуха** — крапіва-пякучка. Ростам яна невысокая, дробненькае лісце, але надта ж моцна пячэ. Глідзі на жэшкуху, моцна пячэцце. Нарві пад плотам жэшкухі і прыніесі, бутлі добра мыць!

**кòзлікі** — сінія разгалістыя кветкі, якія растуць у жыце і цвітуць у той самы час, што і валошка. Іх кветачкі дробныя і нагадваюць сабой галаву казла. Адгэтуль, відаць, і ўзялі сваю назву. Глянь, як мнуого козлікаў. Ой як козлікі расцвілі.

**сòнчыкі** — анемоны (сасанкі). Туолькі сончыкі расцвілі і хтось узяў павырываў. Ні рві сончыкаў.

**ра̀лка** — рыбацкая прылада, служыць яна для нанізвання злоўленай рыбы. Гэта тоненькая галінка, закончаная з аднаго боку нейкім сучком або адросткам. Злоўленую рыбу нанізвалі на яе праз шчэлеп і рот, і, затрымоўваючыся на сучку ці адростку, свабодна яна сабе звісала. Паўгадзіны і дзве ралкі нанізаў, от барэ! От барэ! Каб віедаў, то відро узяў бы, а то зноў на ралку начыпляй.

*(Ляўкова Новае, гміна Нараўка)*

# ВЫРАТАВАНЫЯ СКАРБЫ

На пераломе чэрвеня і ліпеня бягучага года тры працаўнікі аддзялення этнаграфіі Беластоцкага акруговага музея і вучаніца Супрасльскага мастацкага ліцэя амаль цэлы месяц займаліся вывучэннем народнага побыту, шуканнем і набываннем экспанатаў народнай матэрыяльнай культуры ў Луцэ і навакольных вёсках. Гэту экспедыцыю ўзначальвала кіраўнік аддзялення этнаграфіі, старшы захавальнік музея мгр **Галіна Якубоўская**. Калі экспедыцыя, нагружаная мноствам знаходак, бярэмямі сшыткаў з запісамі, мноствам здымкаў і яшчэ больш багатымі ўражаннямі вярнулася ў Беласток, мы звярнуліся да Г. Якубоўскай з некалькімі пытаннямі:

**„Н“:** — Якія заданні стаялі перад вашай экспедыцыяй?

**Г. Я.:** — Разам з тым, як растуць земляныя насыпы вакол будучага Семяноўскага вадасховішча, няўмольна набліжаецца час высялення вёсак Боўтрыкі, Буды, Гарбары, Лука, Рудня. Праз некалькі год людзі будуць вымушаны падняцца з насіджаных імі і многімі пакаленнямі іх продкаў месц і падацца на новыя сялібы. Пры такім вялікім зруху наступяць радыкальныя перамены ва ўсім укладзе іх жыцця. Таму мы перш за ўсё імкнуліся зарэгістраваць цяперашні стан грамадскай свядомасці і народнай культуры ў розных галінах жыцця і дзейнасці ў гэтых мясцовасцях. Потым можна будзе правесці параўнальныя даследаванні тых пераменаў, якія наступілі пад уплывам перасялення ў гэтых жа людзей. Адначасова мы праводзілі навуковыя даследаванні ў некалькіх галінах народнай культуры, напрыклад, мгр Войцех Кавальчук займаўся вывучэннем рамяства, асабліва кавальства; я ж сама займалася справамі ткацтва і каляндарнай абрадавасцю. Пры гэтым мы дакументавалі на фатаграфічных здымках, малюнках і ў апісаннях знойдзеныя этнаграфічныя помнікі і, зразумела, набывалі многія з іх для папаўнення і ўзбагачэння збораў нашага музея. База нашай экспедыцыі знаходзілася ў Луцэ і ў гэтай вёсцы мы праводзілі стацыянарныя даследаванні, сандаж і разведку рабілі ў суседніх вёсках і хутарах.



**„Н“:** — Як вам працавалася?

**Г. Я.:** — Вельмі добра! Людзі там надзвычай сардэчныя, мілыя, гасцінныя. У нас адразу наладзілася супрацоўніцтва, асабліва з Аннай Стоцкай, Надзеяй і Арсенем Харкевічамі і іншымі, перш за ўсё з тымі, хто ўжо раней меў кантакт з нашым музеем. Прыгадаю хоць бы тое, што ў студзені бягучага года мы арганізавалі спецыяльную экспедыцыю, каб задакументаваць абрад калядавання ў Луцэ. Было цудоўна. Гасцявалі мы тады ў Надзеі і Арсеня Харкевічаў. Былі старадаўнія калядныя абрады, жарты, песні, народныя стравы, ну і зразумела, свяціла нам найпраўдзівейшая на свеце калядная звязда! Цяпер жа нам прыйшла з дапамогай таксама дырэкцыя гміннай школы ў Нараўцы, а дырэктар школы ў Луцэ Ян Ціванюк стварыў добрыя ўмовы для нашай працы. Нашым вельмі ахвярным памочнікам была лучанская настаўніца беларускай мовы Тамара Ціванюк. Нягледзячы на тое, што гэта быў сенакос, людзі ахвотна інфармавалі нас, паказвалі свае хаты, адчынялі перад намі сундукі. Бывала, А. Стоцкая ўвесь дзень працуе пры сене, а потым далёка за поўнач расказвае нам пра абрады, звычаі, розныя заняткі. Тамашнія ткаллі выцягвалі з сундукоў па 30—40 розных тканін і вельмі падрабязна паяснялі тэхніку іх ткання. І куды мы не заходзілі, усюды нас частавалі цудоўнейшым хлебам хатняй выпечкі.

**„Н“:** — Які плён экспедыцыі?

**Г. Я.:** — Прыступаем якраз да набывання, прывозу ў Беласток, класіфікацыі, апрацоўкі гэтых скарбаў. Так што на лікі яшчэ ранавата, але наогул яны надта багатыя і сапраўднымі этнаграфічнымі адкрыццямі, і набыткамі арыгінальных экспанатаў. У тканіне, напрыклад, мы знайшлі ўзорыстае пасавае ткацтва, ваўняную тканіну з надта цікавай вышыўкай з расліннымі і жывёльнымі матывамі, элементы мужчынскага і жаночага ўбору з адлеглых эпох, мноства розных іншых тканін. Вельмі багата прадстаўлены прылады працы: апрацоўкі зямлі, сталярныя, дойлідскія, кавальскія, для сплаву дрэва, пражы і ткацтва і іншых дзялянак дзейнасці. Сапраўдная знаходка — гэта вялікая калекцыя негатываў мясцовага фатографа-аматара з міжваеннага перыяду, а ў ёй здымкі з людзьмі і рэаліямі адышоўшай эпохі. Уяўляеце, які гэта скарб! Або карункавыя вырабы, якімі тамашнія дзяўчаты і маладзіцы калісьці ўсцілалі ўсю хату і завешвалі ўсе сцены! Ці старадаўнія меры і вагі: розныя кварты, гарнцы. Многа, вельмі многа ўсяго гэтага.

**„Н“:** — Ці будуць наступныя экспедыцыі?

**Г. Я.:** — Так, абавязкова. Хочам вельмі дакладна даследаваць Буды і іншыя вёскі, дзе мае быць Семяноўскае вадасховішча. Магчыма, што нам удасца расшырыць і ўзмоцніць нашыя экспедыцыі студэнтамі з аддзялення этнаграфіі Варшаўскага універсітэта, бо нам самім — у нас усяго некалькі асоб працаўнікоў — проста не пад сілу апрацаваць тое багацце, якое тоіцца на абодвух берагах верхняга цячэння Нарвы.

**„Н“:** — Як будуць выкарыстаны сабраныя экспанаты?

**Г. Я.:** — Перш за ўсё мы іх вельмі старанна закансервуем і дбайна захаваем як помнікі багатай матэрыяльнай культуры цяперашняга і папярэдніх пакаленняў людзей, што жывуць і жылі на гэтай зямлі. Яны выдатна ўзбагацяць этнаграфічныя зборы нашага музея, бо мы хочам мець поўныя камплекты этнаграфічных помнікаў з усіх ваколіц Беласточчыны. Будзем іх папулярызаваць на розных пастаянных і часовых выстаўках. Намерваемся напісаць навуковыя і навукова-папулярныя працы пра гэтае надзвычайнае багацце народнай матэрыяльнай культуры.

**„Н“:** — Вашыя пажаданні?

**Г. Я.:** — Ад усяго сэрца дзякую ўсім тым, з кім мы так плённа працавалі ў Луцэ і яе ваколіцах.

**Размаўляў М. Гайдук**
Фота аўтара



 

 




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА VIII

Па сутнасці ва ўсіх сентыментальных і народніцкіх творах Коласа выступаюць дыдактычныя тэндэнцыі. Пісьменнік імкнецца звярнуць увагу чытача на акрэсленыя з'явы, хоча яго ўчуліць, прышчапіць яму акрэсленыя погляды або ідэалы. Цікава, што Колас у многіх творах гэтага тыпу выкарыстоўвае прыродаапісальныя матывы. У такіх творах, як „Думкі ў дарозе", „Сірата-Юрка", „У старых дубах", гармонія і прыгажосць прыроды супрацьстаўляюцца недасканаласці ў адносінах паміж людзьмі. І наадварот, у творах „Васіль Чурыла", „Тры браты" і многіх вершах са зборніка „Песні жальбы" пануры пейзаж гарманізуе з драматызмам чалавечых перажыванняў або недасканаласцю грамадскіх адносін.

Характэрнай рысай некаторых сентыментальных навел Коласа з'яўляецца тое, што адсутнічае ў іх тэматычная канкрэтызацыя або фабулярнасць. Іх істотай з'яўляецца лірычная рэфлексійнасць. Прыкладам такога тыпу твора могуць быць „Думкі ў дарозе".

„І куды ты нясеш мяне, невядомая дарога? А неба! Далёкае, няведамае, сіняе неба! Тысячы, мільёны гадоў пазіраеш ты, без болю, без трывогі, пазіраеш на ўсіх роўна: на чалавека, на звера, на птушку, на самую меншую мушку, на жывых і нежывых, на нашу бедную зямлю, прагноеную людскімі трупамі, залітую крывёю і горкімі слязьмі сіраты-народа.

...Толькі нудныя песні твае, Беларусь, хапаюць за сэрца, жалобяць душу, туманяць вочы слязьмі, плачуць і стогнуць і горкаю ўпікаю, ціхаю скаргаю плывуць к далёкаму, няведамаму, сіняму, спакойнаму небу".

Падобная трактоўка тэмы выступае ў цыкле празаічных твораў пад загалоўкам „Родныя вобразы". Цыкл гэты быў створаны ў 1906—1908 гадах, гэта значыць у пачатку пісьменніцкага шляху Коласа. Характэрнай рысай гэтых твораў з'яўляецца тое, што няма ў іх чалавечых постацей, адсутнічаюць героі. Усе ідэі, ацэнкі, пастулаты выказвае аўтар ад свайго імя.

У апавяданнях „Паўлюковы думкі" і „Васіль Чурыла" пісьменнік стараецца стварыць постаці герояў з паглыбленай псіхалогіяй і зародкамі фабулы. Пераходную пазіцыю паміж стыхійна-рэфлексійнай і фабулярнай прозай займае твор „У горадзе". Яго выключнасць заключаецца ў тым, што тэматычна звязаны ён не з вёскай, а з гарадской рэчаіснасцю. Апавяданне „У горадзе" поўнасцю ўтрымана ў слязліва-сентыментальнай стылістыцы. Паказаны ў ім рабочы, якога жорсткія гарадскія адносіны прымусілі павесіць жабрацкую торбу, выйсці на вуліцу і на ёй павольна канаць.

Усё апавяданне — гэта сентыментальна-народніцкая скарга на абыякавасць людзей, на бесчалавечнасць багатых, на няшчырасць духавенства. Слабасць твора праяўляецца ў тым, што герой Коласа абсалютна нямы. Не выказвае ён ніякіх думак і ідэй. Гаворыць за яго сам аўтар. Ён тут апранаецца ў тогу адваката. Постаць героя-рабочага-ахвяры хаця і ўнушальная, то ўсё ж такі ў літаратурным сэнсе даволі спрошчаная.

Сентыментальная слабасць твора праяўляецца, між іншым, у прыведзеным фрагменце:

„Людзі ішлі і ішлі як рачныя хвалі, думаючы свае думкі, чужыя адзін аднаму. Гора людское ў вобразе беднага рабочага стаяла ўсё на скрыжаванні. Чорны пот мяшаўся з горкімі слязьмі, і вобраз смерці і пакуты веяў сваімі крылламі над галавой беднага рабочага...".

# ФАЛЬКЛОР

## ЛЮБОЎНАЯ







*Бівсе козак, бівсе, з дорожэнькі збівсе,*
*коню вороному на грывку схілівсе.*
*— Пэрэстань, дівчыно, куколь вырываті —*
*стэлі постіель біелу, поляжэмо спаті.*
*— Постіель я постіелю, сама я нэ лягу —*
*козак молодэнькі одразу обманэ.*
*Дівчынонька дурна постіельку послала,*
*козак пожартовав, дівчына нэ вчула.*
*Дівчына встала, ручкі заламала:*
*— Ой, Божэ, Божэ, што я й наробіла?*
*І ўчора я была чырвона каліна,*
*а дісь я стала, як рута завяла.*
*— Дівчыно, дівчыно, на сто рублі на мыло,*
*а дзвесте на піво.*
*Півом напівайсе, мылом намывайсе,*
*коб краска заграла, коб матка нэ знала.*

Ад Шумелюк Анны, 82 гады, вёска Рыбалы гм. Заблудаў, запісаў 19 мая 1978 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.



*Трава гатова да другога пакосу...* *Фота В. Рудчыка.*

...вэкс". Доўга тады не думала, схапіла гэтую дваццатку (пасля яна стала рэчавым доказам) і пайшла з турыстам за корч.

На няшчасце, чорт прыслаў на поле і то якраз у гэты момант, калі не трэба было, старога Казака, які прыйшоў за кабылай, каб па сена ехаць. Ну і згледзеў ён за карчом сваю дачку з гэтым турыстам. Дапаў да іх і давай лейцамі іх абкладаць! Бедны замежнік з перапалоху ходу да свайго аўтамабіля замежнага. Хуценька запусціў яго — і на газ. Машына рванула, як ашалелая, але тут жа раздаўся ломат, піск, енк ды ўсё іншае. Проста багаты замежнік забыў, што адвінціў амаль усе гайкі пры коле. Яно адляцела пасля кароткай язды, а аўтамабіль прабіў таполю, пераскочыў цераз адхон і зарыўся ў бураках, якія толькі што палола Верка. Яна сама кінулася наўцёкі, а бацька за ёю. Але дзе ж яму, старому, дагнаць перапалоханую дзяўчыну! Са злосці шпурнуў за ёю гэтае адарванае ад аўтамабіля кола, якое якраз папала яму пад рукі. Кола, як кола, пакацілася ўдагонкі за дзяўчынай. Яна адскочыла ўбок і кола паляцела далей па шашы. На няшчасце, шашой ехала на веласіпедзе адна жанчына са сваім дзіцём, якому тры гады было. Кола збіла іх з ровара, і ў дзіцяці патрасенне мазгоў. Да сёння яшчэ невядома, што з яго будзе.

Вось да чаго давёў у нас апетыт на долары! А на другі дзень над нашымі палямі прайшла градавая бура, якой і найстарэйшыя людзі ў нас не памятаюць. Лёд кавалкамі ляцеў з неба. Збожжа, бульбу, буракі, трускалкі... усё змалаціла, быццам цэпам.

Старая Хвядосся аб'явіла ўсім, што гэта божае пакаранне за распусту, якая завялася ў нашай вёсцы, і раіла наладзіць крэсны ход па палях.

Мы аднак найперш накіраваліся да страхавога прадпрыемства, значыць у ПЗУ, каб нам выплацілі кампенсацыю. А там... шкада слоў!

А так, больш нічога важнага не здарылася ў нашай вёсцы, аб чым варта было б вам, даражэнькія, расказаць.

Ваш
**Максім Нурэцкі**

# РУШЫЛА ПЕРШАЯ ПРАДУКЦЫЯ

На Беласточчыне ёсць спрыяльныя ўмовы для вырошчвання трускалак і іншых ягад і фруктаў. У гэтым годзе скупка гэтых ягад прайшла больш спраўна (гэта вельмі важна, беручы пад увагу тое, што трускалкавы сезон кароткі), а ўжо значна лепш было з іх загаспадарваннем.

У чэрвені пачало замарожваць агародніну і фрукты адно з аддзяленняў сучаснага халадзільнага прадпрыемства ў Сямяцічах. У ліпені яно перапрацоўвала ў сярэднім па 150 тон трускалак у суткі. Праз паўтара года, калі закончыцца пабудова фабрыкі, будзе яна замарожваць каля 55 тысяч тон агародніны і фруктаў у год. Адсюль пойдуць яны на экспарт у СССР і заходнія дзяржавы.

Сёлета замарожана каля 4 тысяч тон трускалак. Зараз дастаўляюцца на фабрыку чорныя парэчкі. Варта дадаць, што ў адной халадзільнай камеры можна памясціць 7 тысяч тон. Будуюцца чарговыя.

Тым часам на 27-гектаровай плошчы заканчваюцца работы пры пабудове пад'язных дарог, станцыі ачышчэння вады, кацельнай. Да канца набліжаецца пабудова другой халадзільнай камеры і мантаж стальных канструкцыяў пад пабудову адміністрацыйна-сацыяльнага будынка, у якім будуць бюровыя пакойчыкі, раздзявальня, душ і святліца. Неўзабаве распачнецца таксама пабудова гасцініцы на 450 асоб і сталовай. У канцы верасня гэтага года будзе гатова камера хавання на 10 тысяч тон агародніны і фруктаў.

У даны момант пры прадукцыі на сямяціцкай фабрыцы працуе 350 чалавек. У наступным годзе лік людзей, якія будуць тут працаваць, падвоіцца. І, мабыць, маладыя людзі з сямяціцкіх вёсак не будуць выязджаць на верфі ў Гданьск і Шчэцін, або ў другія мясцовасці краіны. Зараз на месцы адкрыліся магчымасці шырэй развіваць прадукцыю агародніны і фруктаў, якія з'яўляюцца высока рэнтабельнымі культурамі, а перш за ўсё магчымасці высокіх заробкаў на навюсенькім сучасным прадпрыемстве для замарожвання фруктаў і агародніны. (яц)

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Сачанка І. І., **Публіцыстыка беларускіх пісьменнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны**, 1977, стар. 256, цана 36 злотых.

Кніга пра артыкулы, нарысы, допісы і іншыя публіцыстычныя матэрыялы Я. Купалы, К. Чорнага, П. Глебкі, Я. Коласа, К. Крапівы, М. Лынькова і іншых беларускіх літаратараў, што выйшлі з-пад пяра ў напружаныя гады змагання з гітлераўскімі захопнікамі і былі змешчаны ў цэнтральным, рэспубліканскім, франтавым і партызанскім друку.

Гроднеў Мікола, **Салодкі боль**, 1977, стар. 288, цана 22 зл. 20 гр.

Аповесць пра адзін з перадавых атрадаў рабочага класа цяперашняй Беларусі — калектыў Мінскага трактарнага завода. Кніга ў аснове сваёй мае характар дакументальны.

Васілёнак Яўген, **Выбраныя творы ў двух тамах**, 1977.

Том І, стар. 360, цана 29 зл. 60 гр. У яго ўвайшлі выбраныя апавяданні і навелы гэтага беларускага журналіста і празаіка старэйшага пакалення, сярод іх: „Выпадковы прыпынак", „Снежкі", „Дзяўчына і стэп", „Трое" і інш.

Том ІІ, стар. 304, цана 26 зл. 40 гр. Яго склалі творы пісьменніка большыя па аб'ёму і багацейшыя праблематыкай — аповесць „Таццяна Ларына", кінааповесць „Першы стрэчны", а таксама некалькі апавяданняў.

Пяшко Іван, **Чырвоная клубніка**, 1977, стар. 112, цана 6 зл.

Першая кніга маладога празаіка родам з суседняй з намі Гродзеншчыны. Свежая, сакавітая, удалая проза!

**Беларуская мова. Выпуск 5, 1977**, цана 30 зл.

Чарговы зборнік перыядычнага выдання Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, у яго ўвайшлі артыкулы па лексікалогіі і словаўтварэнню: Кацапаў Л. А., „Сенажатная лексіка старабеларускай мовы"; Красней В. П., „Прыродазнаўчая лексіка на старонках беларускіх выданняў пачатку XX ст."; Лябёдка Г. В., „Да пытання аб лексічных архаізмах у беларускай мове" і інш., па марфалогіі і сінтаксісу, па лексікаграфіі, між іншым, працят (літары Л, М, Н) дыялектнага слоўніка Гомельшчыны.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі поштай за залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце на адрасу: „Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10. (мг)



 




Дарагое Сэрцайка, можа ты мне параіш, як развесяліць маё сумнае, нешчаслівае жыццё. Зрабіла я вялікую памылку ў маладосці і яна знішчыла маю радасць на ўсё жыццё. Было мне 17 год. Хадзіла я з мала старэйшым за мяне хлопцам, Слаўкам, абое вучыліся ў школе і моцна кахалі адно другое. Я зацяжарыла. Спачатку не прызнавалася, але дрэнна сябе адчувала, і мама заўважыла, што штосьці са мной не ў парадку. Пад яе напорам я прызналася. Мама хутка „залатвіла" справу — цяжарнасць перарвалі. Але і я ледзь пры жыцці ўтрымалася. Славак пасля таго пакінуў мяне. Страшэнна перажыла я ўсё гэта. Але школьны год яшчэ закончыла. У школе ніхто нічога не ведаў, так я і правучылася яшчэ два гады. Пасля пайшла на работу. І тут пазнаёмілася з Веськам. Хадзілі мы два гады і пасля пажаніліся. Весек аб нічым не ведаў. Жылі мы шчасліва, але гады ішлі, а я не магла нарадзіць дзіцяці. А Весек вельмі любіць дзяцей. Урэшце я прызналася, што здарылася калісьці са мной. Не спадзявалася, што ўспрыме ён гэту вестку з такім зразуменнем. Сказаў, што неадкладна павінна пайсці я да лекара. І сам пайшоў са мной. Распачалося лячэнне. Аднак я надалей не магу мець дзяцей. А гады ляцяць, хутка трыццатка стукне. Весек гаворыць, каб узяць маленькае дзіця з сірацінца. Дзеці тыя нешчаслівыя, кажа. Мы яму дамо шчасце, а яно нам. Ці ж не варта? Мо і праўда. Але, думаю, напішу яшчэ да цябе, Сэрцайка, ты многім раіш, парай і мне.

Ірэна з С.

**Ірэна!** Разумна думае твой муж, і я поўнасцю з ім згаджаюся. Ён думае не толькі аб сваім шчасці, але аб шчасці таго ж маленства, пакінутага маці, якое, калі не прыгалубяць яго добрыя людзі, ніколі не зазнае мацярынскай цеплыні, ласкі і чуллівасці. Маленькаму дзіцяці няма розніцы — яго гэта маці, ці не. Яму становіцца маткай тая жанчына, якая яго выхоўвае, сям'ёй — тая сям'я, у якой яно знаходзіцца. І ты будзеш радавацца, гледзячы, як яно расце ў цябе, і любіць яго, як сваё. Бо не тая ж маці, што дзіця нарадзіла, а тая, што яго выхавала.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Я твая сталая чытачка, але не толькі рубрыкі „Вер — не вер...", а цэлай газеты „Ніва". Я вельмі цікаўлюся публікаванымі снамі і стараюся запомніць, што яны абазначаюць. Але аб такім сне, які мне прысніўся ў апошнюю ноч, ты, дарагі Астроне, яшчэ не пісаў, а думаю, што ён штосьці абазначае.

Снілася мне, што мы ішлі дарогай (я і яшчэ хтосьці з нашай сям'і, але я дакладна не памятаю) і ўбачылі шарака (зайца) і пачалі яго пужаць. Ён бегаў, бегаў па зялёнай пашы і, бедны, змучыўся. Потым выбег на дарогу. Я ўжо была адна. Ён бег паволі, і я пастанавіла яго злавіць. Доўга не бегаючы, я яго злавіла і вельмі абрадавалася. Ён быў вялікі і вельмі прыгожы, не такі, як усе — шэры, а ў белыя лапкі. Я вельмі цешылася, што яго заб'юць, абдзяруць шкуру, і я сабе пашыю прыгожую шапку на зіму. На гэтым я і прачнулася.

Дарагі Астроне, калі ласка, напішы, што ён можа абазначаць, а думаю, што ён не пусты. Выбачай, дарогі Астроне, за памылкі. Беларускую мову я вывучала ў пачатковай школе і многае забыла. Чытаць я ўмею добра, а пісаць горш. Чакаю твайго адказу на шостай старонцы „Нівы".

Твая сталая чытачка
Ніна з Гайнаўкі

**Мая сталая чытачка Ніна з Гайнаўкі!** На шостай старонцы табе я і адказваю. Апынешся ты ў нейкім небяспечным становішчы, з якога выйдзеш, на шчасце, паспяхова (усё гэта праз таго зайца). Зусім магчыма, што тая нечаканая небяспека прыдзе ў выніку нейкага падарожжа, бо ты ж хацела пашыць са скуркі зайца шапку.

**Астрон**

## У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*У студэнтаў канікулы.* *Фота С. Рыбі.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ. Г. атрымаў кватэру ў дзяржаўным доме, а пасля ўзяў шлюб з Ш. Праз тры гады яны ўзялі развод і надалей жывуць у той самай кватэры. Яны маюць адно дзіця. Г. часта вяртаецца дамоў п'яны і скандаліць. Калі Ш. звяртае яму ўвагу, то ён гаворыць, што кватэра яго, а калі ёй не падабаецца, то можа сабе пашукаць іншай кватэры, бо ён і так яе з гэтай кватэры выкіне. Ці можа Г. патрабаваць высялення сваёй былой жонкі? Ці прыслугоўвае ёй права на кватэру і як яна можа дабівацца свайго права, якое парушае Г., не даючы ёй жыць спакойна?

АДКАЗ: Незалежна ад таго, каму прыдзелена жыллёвым аддзелам кватэра, на аснове жыллёвага закону лічыцца, што яго наймальнікамі з'яўляюцца муж і жонка. Прыслугоўваюць ім аднолькавыя правы на кватэру. Гэтае права абавязвае таксама пасля разводу. Яны маюць таксама аднолькавыя абавязкі, а асабліва павінны паводзіць сябе так, каб не перашкаджаць адзін другому. Калі паводзіны Т. неадпаведныя і перашкаджаюць Ш. спакойна жыць, яна можа звярнуцца ў суд з патрабаваннем прымусовага высялення былога мужа. Гэткае патрабаванне магло быць прад'яўлена ўжо ў часе судавядзення аб разводзе і тады б суд вырашыў гэту справу разам са справай аб разводзе.




У ЗДАРОВЫМ ЦЕЛЕ ЗДАРОВЫ ДУХ

### ЦІ ВАРТА БЫЦЬ ТАЎСЦЯКОМ?

Паводле статыстыкі кожны дваццаты амерыканец змагаецца са сваім надмерным салам. І гэта барацьба каштуе амерыканцаў... 6 мільёнаў долараў у год. Здавалася б, што можа быць прасцейшага на свеце! А тым часам гэта справа не такая лёгкая.

Поўным людзям вельмі лёгка „выходзяць з сябе". Знерваваўшыся ці маючы нейкія клопаты, яны найчасцей аб'ядаюцца.

Поўныя людзі намнога больш эмацыянальныя. Часта рэагуюць яны вельмі моцна на стымулы, звязаныя з самым толькі працэсам яды, напрыклад, характэрным шолестам паперы пры разгортванні цукеркі. Усе мы рэагуем на апетытна пададзеную страву, на прыемны арамат, на звязаную з ядой пару дня. Поўныя ж людзі рэагуюць на ўсе гэтыя факты намнога мацней і намнога часцей.

Здаўна праблему паўнаты звязвалі з наследствам. Апошнія доследы паказалі, што 73 працэнты дзяцей поўных бацькоў бываюць таксама поўныя і аб гэтым найчасцей вырашаюць першыя гады жыцця, калі поўнае дзіця здаецца бацькам сімвалам здароўя і прычынай гонару. Разбуджаны „механізм прадукцыі тлушчу" будзе ў іх арганізме дзейнічаць ужо да канца жыцця. І таму менавіта поўным людзям так цяжка ўтрымаць нармальную вагу нават коштам цяжкай дыэты. Апрача таго, поўныя дзеці часцей хварэюць на павышаны ціск крыві і цукровую хваробу, будучы дарослымі.

Пераходзяць па наследству звычаі, звязаныя з ядой: замілаванне да некаторых страў, тэмп яды, расклад яды ў дзень. Часта гэтыя прывычкі вынікаюць таксама са звычаю ўзнагароджвання дзяцей цукеркамі „на пацеху", калі яны маюць нейкія клопаты. І гэта датычыць у Амерыцы таксама дарослых. Паўната найчасцей выступае тут у сем'ях, якія знаходзяцца ў цяжкім эканамічным становішчы, а таксама сярод эмігрантаў, якія яшчэ не прыстасаваліся да жыцця ў новых умовах.

Паколькі поўныя людзі ядуць занадта многа, іх арганізм выпрацоўвае большую здольнасць накапліваць тлушч у тканках, што спрыяе ў сваю чаргу далейшай паўнаце. Узрастае выдзяленне інсуліна, што выклікае пачуццё голаду, а ў выніку гэтага штораз больш адкладанне тлушчу. Паўната выклікае таксама неруханасць, а гэта таксама перашкаджае пазбыцца непатрэбных кілаграмаў. Найгоршае ж гэта тое, што поўныя людзі вельмі часта адчуваюць сябе нешчаслівымі, і ў роспачы аб'ядаюцца яшчэ больш.

**Эскулап**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Паколькі Кругер меў у Заходняй Германіі нават паліцэйскую прапіску, ні англійскім акупацыйным уладам, ні прыцягнутаму імі на дапамогу „Інтэрполу" не склала б ніякай цяжкасці знайсці яго.

Той факт, што за 10 гадоў, што прайшлі з 1945 года да зыходу тэрміну даўнасці за падробку грошай, заходнегерманская паліцыя не надзела на Кругера наручнікі і не адправіла яго ў следчую турму, прыводзіць да вываду, што і ў гэтым выпадку вельмі грашовыя заходнегерманскія колы апякалі злачынца, які дзейнічаў у інтарэсах германскага імперыялізму.

Але ўсё гэта бляднее ў параўнанні з тым, што адбылося ў 1957 годзе, калі ў федэральнае ведамства па крымінальных справах, якое падтрымлівала цесны кантакт з „Інтэрполам", паступіла пісьмовае хадайніцтва аб прыёме на службу. Пад ім стаяў подпіс былога штурмбанфюрэра СД Бернхарда Кругера! Аднак ніякага палітычнага скандалу не было. Хадайніцтва, як належыць, разгледзелі і ветліва адхілілі. Але нават у тым выпадку, калі ў Боне лічаць, што тэрмін прыцягнення Кругера да суда за выраб фальшывых грошай скончыўся, па-ранейшаму патрабуюць адплаты яго злачынствы супраць чалавечнасці! Федэральнае ведамства па крымінальных справах не адважылася афіцыяльна прыняць на службу нацысцкага злачынцу, якога шукалі па ўсім свеце, але і не ўзбудзіла супраць яго судовага праследавання. Яно і зразумела: у самім жа ведамстве нямала людзей з такім жа мінулым, як у Кругера. Вось чаму Кругер і вырашыў звярнуцца туды з просьбай аб сваім далейшым выкарыстанні.

Газета „Абендпост", што выходзіць у Франкфурце-на-Майне, у паведамленні „Калісьці перад ім дрыжэў англійскі банк" 3 мая 1957 г. спачувальна пісала: „Гітлераўскі фальшываманетчык хоча служыць у федэральным ведамстве па крымінальных справах, але яшчэ па сённяшні дзень на міжнародных чорных рынках знаходзяцца ў абарачэнні асобныя банкноты, вырабленыя на „прадпрыемстве" Кругера. Пасля вайны, расказвае Кругер, адна вялікая дзяржава прапанавала яму працаваць на яе. Якая іменна, ён сказаць не жадае. Ён адхіліў гэту прапанову. Але ў Заходняй Германіі асаблівым здольнасцям гэтага чалавека, які прымушаў дрыжэць англійскі банк, выкарыстання не знайшлі. Хадайніцтва Кругера аб прыёме на службу ў федэральнае ведамства па крымінальных справах было адхілена. І вось яму з сумам прыходзіцца канстатаваць: „Думаю, што яны маглі б у мяне сяму-таму павучыцца".

Пакуль яшчэ не зразумела, ці многаму навучылася бонскае крымінальнае ведамства ад Кругера, але так ці інакш у пасляваенныя гады ён заставаўся ідалам усіх фальшываманетчыкаў свету, гросмайстрам усіх крымінальнікаў, якія прафесіянальна займаюцца падробкай грошай у вялікім маштабе. Нельга выпускаць з-пад увагі, што ў радзе капіталістычных краін зацікаўленым неафашыстам і гангстэрскім сіндыкатам дзякуючы сенсацыйна пададзеным публікацыям сталі вядомыя арганізацыйна-тэхнічныя дэталі фальшываманетнай практыкі Кругера. Якую ролю адыграў пры гэтым ён сам, пакуль яшчэ не высветлена. Але характэрна, што ён пачаў праяўляць яўную занепакоенасць, калі заўважыў, што яго злачынствы не забыты і не пагашаны тэрмінам даўнасці ва ўсходняй частцы Германіі і ў іншых краінах. Ён пакінуў Дасель, дзе жыў у адасобленым доме, і перасяліўся ў прыгарад Штутгарта — Корнталь, наўмысна распаўсюджваючы чуткі, што выехаў за граніцу.

У студзені 1964 года аўтар кнігі перадаў сабраны ім у іншых краінах і падмацаваны паказаннямі сведак абвінаваўчы матэрыял супраць Кругера пракуратуры ў Людвігсбургу. Гэты матэрыял, што абвінавачвае злачынцу ў забойствах, яна накіравала кіраўніку цэнтральнага бюро пры обер-пракурору Кёльна па расследаванню нацысцкіх масавых злачынстваў у канцэнтрацыйных лагерах. Было затрачана многа каштоўнага часу, а гэта ішло на карысць злачынцу. Затым высветлілася, што обер-пракурор Кёльна, у чыю кампетэнцыю афіцыяльна ўваходзіла расследаванне гэтага абвінавачання, не жадае займацца справай Кругера, а перадаў яе ў пракуратуру Гёцінгена. Тым часам грамадскасці з паведамленняў друку стала вядома пра абвінавачванні ў забойствах, што прад'яўляюцца Кругеру, і яны прыцягнулі яе ўвагу. Толькі праз 60 дзён пракуратура зямельнага суда ў Гёцінгене пачала запозненае следства супраць боса эсэсаўскіх фальшываманетчыкаў па абвінавачанню ў забойствах, учыненых ім у канцлагеры Заксенхаўзен.

У ходзе гэтага расследавання, калі толькі яно будзе весціся як належыць, давядзецца непазбежна сутыкнуцца з тым фактам, што вясной 1945 г. Кругер не толькі атрымаў заданне СД надрукаваць 500 мільёнаў фальшывых долараў, але і вырабіў першыя некалькі тысяч падробленых доларавых банкнотаў, а значыць, меў у сваіх руках выкарыстаныя для гэтага клішэ і сакрэтныя даныя аб метадзе вырабу.

(Працяг будзе)

